*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 29(369) 29 ЛІПЕНЯ 1998 г.

## Паважаныя калегі !

Беларуская бібліятэчная асацыяцыя і Беларускі універсітэт культуры праводзяць даследванне патрэбнасцяў у бібліятэчных кадрах розных сістэм і ведамстваў. З Вашай дапамогай мы зможам больш мэтанакіравана весці падрыхтоўку бібліятэкараў і ўлічваць забяспечанасць кадрамі пэўных сістэм пры размеркаванні маладых спецыялістаў.

**Калі ласка, падкрэсліце пазіцыю, якая адпавядае Вашай сітуацыі:**

1. Якога ведамаснага падпарадкавання Ваша бібліятэка..
1.1. Міністэрства культуры
1.2. Міністэрства адукацыі
1.3. Міністэрства аховы здароў'я
1.4. Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання
1.5. Міністэрства фізічнай культуры і спорту
1.6. Іншыя ______________________
2. Да якога тыпу бібліятэк адносіцца Ваша бібліятэка
2.1. універсальная бібліятэка
2.1.1. публічная
2.2. спецыяльная
2.2.1. навукова-тэхнічная
2.2.2. вышэйшай навучальнай установы, тэхнікума
2.2.3. школьная
2.2.4. сельскагаспадарчая
2.2.5. медыцынская
2.2.6. іншыя ______________________
3. Колькасць кадраў у Вашай бібліятэцы
______________________
4. Узровень падрыхтоўкі кадраў Вашай бібліятэкі
4.1. ______________________
укажыце % склад кадраў з вышэйшай бібліятэчнай адукацыяй
4.2. ______________________
укажыце % склад кадраў з вышэйшай небібліятэчнай адукацыяй
4.3. ______________________
укажыце % склад кадраў з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй
4.4. ______________________
укажыце % склад кадраў з сярэдняй адукацыяй
5. Якая спецыялізацыя будучых спецыялістаў у найбольшай ступені задаволіць патрэбнасці Вашай бібліятэкі:.
5.1. Бібліятэкар - бібліёграф публічнай бібліятэкі
5.2. Бібліятэкар - бібліёграф навукова-тэхнічнай бібліятэкі
5.3. Бібліятэкар - бібліёграф дзіцячай бібліятэкі
5.4. Бібліятэкар - бібліёграф з веданнем замежнай мовы
5.5. Бібліятэкар - бібліёграф - выкладчык беларускай мовы і літаратуры
5.6. Аўтаматызаваныя бібліятэчна-інфармацыйныя сістэмы
5.7. Бібліятэкар - бібліёграф у аддзеле рэдкай кнігі
5.8. Бібліятэкар - бібліёграф — краязнаўца
5.9. Іншыя ______________________

Дзякуй за дапамогу!

*Анкеты дасылаць на адрас: Бібліятэка. Аддзел рэдкай кнігі Беларускага універсітэта культуры. Рабкораўская, 17, 220001 г. Мінск. Рэспубліка Беларусь. Тэл. 222-83-27.*

## Рэспубліканская рада ТБМ імя Ф.Скарыны

23 ліпеня ў Менску прайшло нечарговае пасяджанне Рэспубліканскай рады ТБМ імя Францішка Скарыны.

Рада ўнесла змены ў Статут ТБМ, якія тычацца пытанняў камерцыйнай дзейнасці ТБМ, і вызначыла памер абавязковых сяброўскіх складак.

Сябры рады выказаліся наконт папраўвак у Закон аб мовах і накіравалі зварот Прэзідэнту акадэміі навук сп. А.Вайтовічу з патрабаваннем вярнуць беларускую мову ў аспірантуру, як прадмет.

## "Крыніца" з Санкт-Пецярбурга

У Санкт-Пецярбургу выйшаў першы нумар культурна-рэлігійнага часопіса сябрыны католікаў-беларусоў "KRYNICA". Калантытулы і частка матэрыялаў падаюцца беларускай лацінкай, іншая частка - беларускай кірыліцай. У часопісе шмат цікавых матэрыялаў. У прыватнасці паведамляецца, што ўжо на працягу года ў Санкт-Пецярбургу вядзецца радыётрансляцыя на беларускай мове. Кожную суботу ў найпрасцейшым эфіры і нядзелю, як паўтор, каталікі-беларусы, якія жывуць у горадзе над Нявою і вобласці могуць чуць праграму "Магутны Божа" на матчынай мове. Падрыхтоўкаю праграмы займаецца беларуская секцыя радыё "Марыя".


KRYNICA

## Пяць год, як Скарына ў Лідзе

25 ліпеня лідскія актывісты БНФ, ТБМ і ТБШ адзначылі пяцігоддзе ўстаноўкі ў горадзе Лідзе помніка Францішку Скарыне. Людзі прыйшлі да помніка, пакланіліся, усклалі кветкі. Усе пагадзіліся з тым, што Скарына сваім з'яўленнем у Лідзе асвяціў гэты горад. Ён, як пункт адліку для кожнага, хто лічыць сябе лідзянінам і беларусам.

Улады дату не заўважылі, а пяць гадоў назад усё было інакш. Пра гэта на чацвёртай старонцы.



# Памяці Міхася Явара

19 ліпеня на Мастоўшчыне прайшлі ўрачыстасці прысвечаныя 95-м угодкам з дня нараджэння заходнебеларускага паэта Міхася Явара. Імпрэза ахапіла вёскі Мінявічы, Луну, Гудзевічы і самі Масты. Арганізавалі святкаванне Алесь Белакоз, Язэп Палубятка, Аляксей Сабасцян, Лявон Барташ — усе сябры ТБМ. Удзельнічалі сябры ТБМ з Мастоўшчыны і Ліды, а таксама мясцовыя грамадзяне ды тутэйшыя паэты Т.Абухоўская, А.Тарарук, І.Навуменка, А. Пудаўкін. Намаганнямі Язэпа Палубяткі пры дапамозе рэдакцыі газеты "Наша слова" і Гарадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання "Ратуша" да імпрэзы быў выдадзены буклет, дзе сабрана ўсё, што на гэты момант напісана пра Явара і што знойдзена з творчай спадчыны паэта.

*"Невядомы нікому паэта..."*



Міхасю Явару 95 гадоў

# "Лідзкі летапісец" N 5

У Лідзе выйшаў чарговы пяты нумар краязнаўчага гісторыка-літаратурнага часопіса "Лідзкі летапісец". Фармат А-4. Аб'ём 32 старонкі. Заснавальнікі Лідская гарадская Рада Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі і Згуртаванне Лідскай моладзі імя Гедыміна. Часопіс выходзіць адзін раз на два месяцы. Друкуецца на тарашкевіцы. Утрымоўвае матэрыялы па гісторыі Ліды і Лідчыны.


Лідзкі Летапісец
У НУМАРЫ
1939

## Ахвяраванні

**выкладчыкаў, супрацоўнікаў Беларускага універсітэта культуры на выданне газеты "Наша слова"**

**Кафедра філасофіі і гісторыі Беларусі Беларускага універсітэта культуры.**

1. Анатоль Грыцкевіч 200.000
2. Мікола Крукоўскі 200.000
3. Сабаленка Эла 100.000

**Кафедра этналогіі і музеязнаўства**

1. Трусаў А.А. 300.000
2. Чорнік А.І. 30.000

**Бібліятэказнаўства**

1. Акуліч Уладзімір 20.000
2. Кліменкава Н.У. 20.000
3. Стрыжонак У.М. 20.000

**Бібліяграфіі**

1. Лявончыкаў В.С. 50.000
2. Ігнатовіч П.Р. 50.000
3. Жураў Н.В. 50.000
4. Гуд П.А. 100.000
5. Сагановіч Г.М. 50.000
6. Астапенка А.У. 50.000
7. Ваза Д.С. 20.000
8. Каралькоў М.А. 50.000
9. Бураўкін А.Г. 116.000
10. Драчова Л.А. 20.000
11. Самайлюк Г.А. 50.000
12. Доўнар Л.І. 20.000
13. Цітоў В.С. 200.000
14. Васілевіч Ул.А. 20.000

**Кафедра інф.тэхналогіі БУК**

1. Данічаў А.М. 50.000
2. Ганчарова С.А. 50.000
3. Арэшка Т.Д. 50.000
4. Новікаў В.А. 50.000
5. Зязюля А.Р. 50.000
6. Сергіевіч В.І. 8.000
7. Маісеева І.І. 50.000
8. Пахалюк Б.Ф. 20.000
9. Шалей І.А. 20.000

Шаноўныя сябры! Віншуем вас з паспяховым адсвяткаваннем чарговага Дня незалежнасці. Пасля 1 студзеня (Дзень утварэння БССР), 25 сакавіка (Дзень утварэння БНР), 3 ліпеня (Дзень вызвалення ад фашыстаў), 27 ліпеня (Дзень прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверынітэце БССР) нам засталося яшчэ адсвяткаваць 25 жніўня (Дзень надання Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце статусу Канстытуцыйнага закона) і 17 верасня (Дзень вызвалення Заходняй Беларусі ад Польшчы). Ці не зашмат дзён незалежнасці для адной калоніі?

## НАМ НЕПАТРЭБНЫ ЧОРНЫ БОЛЬ

25 чэрвеня Свіслацкая Рада БНФ "Адраджэньне" Ленінскага раёна г. Менска разам з сябрамі ТБМ Заводскай Рады, каля міні-рынка "Серабранка" ладзілі пікет у абарону беларускай мовы. Дазволены Менгарвыканкамам пікет праходзіў пад дэвізам: "За вяртанне беларускай мовы у дзяржаўныя ўстановы, назвы гарадоў, вёсак, вуліц".

Шматлікія, у гэты час (17.30 — 20.00), наведвальнікі міні-рынка і ўніверсама "Серабранка", выпадковыя праходжыя і жыхары раёна, што спяшаліся дадому з вялікай зацікаўленнасцю аднесліся да пікета, над якім лунаў бел-чырвона-белы сцяг БНФ, харугва ТБМ імя Ф.Скарыны, а ўздоўж ходніка расцягнуўся вялікі ланцужок лозунгаў.

Ці-то пранікнёныя словы лозунгаў, заклікаўшых звярнуць увагу на тое, што ў нас няма ніводнай ВНУ з беларускім выкладаннем і зачыняюцца беларускія школы, што з дзяржаўных устаноў знікла беларускае справаводства, а ў назвы гарадоў, вуліц, вёсак вяртаюцца расейскія абравіятуры, ці-то дагары пастаўленыя суадносіны заробку і цэн на харчовыя і прамысловыя тавары, ці-то жабрацкае існаванне, прымусілі шматлікіх праходжых амаль да кожнага пікетоўшчыка звярнуцца з пытаннем, уступіць у дыялог.

Большасць жыхароў раёна добразычліва і з вялікай павагай аднеслася да пікета, але былі і іншыя суадносіны з пікетоўшчыкамі.

Убачыўшы бел-чырвона-белы сцяг, харугву і беларускія словы лозунгаў яны з ашчэранымі, нібы ў звар'яцелага сабакі зяпамі, кідаліся на нібыта "фашысцкі" сцяг, харугву (а яна прычым?), спрабавалі разрываць лозунгі, вылівалі ўсялякі бруд на пікетоўшчыкаў, быццам яны вінаватыя ў тым, што робіцца ў нашым грамадстве, у Рэспубліцы.

Другія аслупянела стаялі, вылупіўшы ад жаху вочы — Што? Яны жадаюць, вось тут на Беларусі, пабачыць беларускія надпісы і чуць беларускую мову! Чаго вы тут стаіце, ідзіце лепш касіць, у калгас вас, у калгас і "што б" ад світанку да захаду і за галачкі.

Але пікетоўшчыкі не звярталі ўвагі на іх захлебныя, зняважлівыя лаянкі, таму ім прыходзілася шукаць падтрымкі сярод шматлікай аўдыторыі грамадзян. Такім чынам узнікалі шматлікія групоўкі з рознымі поглядамі і моцнымі спрэчкамі.

А спрэчак пра мову быць не павінна! Богам дадзеная мова, пасаджаная на беларускай зямлі, яна не можа існаваць у іншым месцы, бо толькі тут яна жыве ў поўнай гармоніі з асяродзем, яе насельніцтвам і толькі тут яна атрымае свой росквіт і добрай гаспадыняй ўвойдзе ў кожную хату, бо жыве вольная і незалежная Беларусь.

За здзекі над нашай мінуўшчынай, за знішчэнне касцёлаў і цэркваў, мы ахвяравалі шматлікімі жыццямі лепшых сыноў і дачок Бацькаўшчыны.

За здзек і глумленне над беларускай мовай, над нашай спадчынай — мы атрымалі Чарнобыль. І няхай кожны жыве па свайму разуменню і працуе, як можа, але не трэба ахвяраваць сваё жыццё дзеля справы, якая чорным болем адгукнецца на нашых нашчадках.

*Сябра ТБМ*
*Мікола Суслаў.*
*10.07.98г.*

## Словы крынічныя

Слова, слоўца. Сакавітае і змястоўнае. У ім заўжды ёсць патрэба. Паспрабуй, падбяры яго адзінае і ў гэтую хвіліну, неабходнае. У Маладзечанскім раёне, адкуль карані Янкі Купалы, з даўніх часоў, напэўна ўмелі падбіраць словы. Яркі выраз гэтаму, як пісаў Фёдар Янкоўскі, старадаўнія Дзякшняны. Само месца, дзе знаходзіцца вёска вельмі цікавае: тут і сапраўдныя горы, пагоркі, акрайкі невялікіх лясоў, рэчка, возера. Былі раней і балоты, — але асушылі. І назва ў карэнных жыхароў на слуху, словы якіх не нойдзеш ні адным слоўніку. Дубнік, Зайкаўшчына, Круляўшчызна, Вісельнікі, — так называюць лясочкі вакол вёскі. Цікава, што ў Дубніку лес змешаны. У асноўным хвоя, ёлка, бяроза. Але вельмі часта можна сустрэць невялікія дубкі. Якія чамусьці прабіваюцца кронай цераз гушчары. Усім вяскоўцам вядома слова Пасека. Гэта невялікая пакладзістая горка, дзе штогод ладзяць Купалле. Назва рэчкі таксама меладычная — Чарняўка. Невялікая, журбатлівая. У час меліярацыі значна змяніўшая сваё абліччa.

І назву вёскі, нават афіцыйна, часта пішуць і праз *і* (Дзякшняны, і праз *я* (Дзякшняны). Такая скарбніца назваў і слоў, якія маюць мясцовае значэнне, але прыстасованы да канкрэтных геаграфічных азначэнняў.

*Уладзімір Русецкі. Журналіст.*
*г.Менск*

*Крыўдна*

## Мы і вітацца развучыліся па-свойску

Ідзеш па вуліцы, сустракаешся са знаёмымі, сябрамі, вітаешся па даўняй, вясковай завядзёнцы — "добры дзень". Альбо "добрай раніцы", "добры вечар" — у залежнасці ад часу дня. Пажаданне добрага дня пры вітанні ёсць і ў іншых славянскіх народаў — у палякаў, балгар, украінцаў. А мае знаёмыя адказваюць мне, не задумваючыся "здрастуйце". Думаеце такое чуеш толькі ў горадзе ? І ў вёсцы карціна не лепшая. Неяк мне трэба было сустрэцца ў адной буйной слуцкай вёсцы з цікавым чалавекам — на журналісцкай звычцы. Вуліца доўгая, кіламетры на два выцягнулася. Дзень выдаўся сонечны, нядзелька, на лаўках насупраць дамоў сядзелі вяскоўцы, усё болей пенсіянеры. Маладыя траплялася з ліку прыехаўшых у вёску з горада на пабыўку, запасціся бабулінымі прысмакамі.

Вітаюся з усімі сваім "добрым днём", а мне ў адказ чуецца дружнае "здрастуйце". Ну, хоць бы бабуля якая адказала панашаму, як віталіся калісьці, яшчэ да вайны нашы далёкія прашчуры! Глядзіш, ідзе з кійком бабуля, прыгнутая гадамі нялёгкай калгаснай прымуспрацай, а на прывітанне адказвае па-расейску.

Сумна і горка ўсведамляць гэта.

Ці можна адрадзіць забыты паўсюдна звычай?

Цяжка, калі ўлічыць, як хутка пасля сумнавядомага рэферэндуму па наданню расейскай мове статусу дзяржаўнай, у школах горада закрылі беларускамоўныя першыя класы — "по желанию родителей", як любяць апраўдвацца іх дырэктары і настаўнікі. Але ж пачынаць можна з малога — са свайго двара, дзе бегаюць дзеці. Іх у шматкватэрным доме, дзе я жыву , не шмат, чалавек дзесяць.

Пры сустрэчы за мною яны дружна вітаюцца гэтак, як і бацькі — "здрастуйце". Аднойчы сабраў іх разам, расказаў, як віталіся паміж сабою іх вясковыя бабулі, прабабулі. Па вачах бачу — зацікавіла маё "адкрыццё". І ўжо назаўтра пры сустрэчы яны, праўда не ўсе, першымі віталіся са мною па-новаму: "Добры дзень".

*Міхась Тычына,*
*г. Слуцк*

## Узбагачэнне мовы

Узбагачэнне мовы — безперапынны працэс. Мова дзіцяці фармуецца у асяроддзі сям'і, у групоўках, у размовах са старэйшымі. Я спасцігаў мову ў вёсцы каля Радашковіч. І ў гульнях, якіх год трыццаць назад, было многа, дзеці карысталіся беларускім словам. І вось чытаючы Васіля Быкава "Воўчая зграя" спазнаём, што многа ёсць новага ў мове, болей чым у свеце дзяцінства. Не карысталіся словам ***кукішкі***. Гаварылі ***прыкленчыў***. Не знаёма слова ***шчытка***. Карысталіся звычайна ***частакол***.Не звярнуўся я бы да сябра са словам ***таропка***. А вось слова ***таропна*** ведаў. А слова ***калівах*** было дзіковіннае. У вёсцы усе казалі ***выбоіна***. Сказаць, што сусед ***брыў*** з работы, было б цяжка. Працей — ***ішоў***, а можа ***блудзіў***, калі да абставін.

Не сказалі, як у аповесці, ***купкі лазняку***. Бо ***купкі*** ў вёсцы больш суадносілась да купак мху ці зямлі. Безумоўна, што літаратурная сучасная мова надзвычайна багатая. Але словы ***балацявіны, асець, хваіна, асвойтаўся, улегцы, чэзлыя*** — новыя.

Звыкла ***гразь, балота, хвоі, яліны, асвоіў, асвоіўся, вывучыў, налягку, легкасцю, рэдкія***. Такі быў навучальны працэс асваення мовы. Дзе дзейнік ***слізгануць*** не мог ужывацца адносна вачэй. Вочы ***глядзяць, косяцца, кідаюць позірк***. І Васіль Быкаў уносіць наватарства ў слаўварны запас. Дзе месца ёсць і цікавым знаходкам. Напрыклад выраз ***хваёвы грудок*** не чуў. ***Грудок*** больш мне падыходзіў да ***брукаванай дарогі, трасцы***. Але слова да месца. ***Хваёвы лес*** - звыкла. Пачатак лесу - без наватарства і мастацкасці. І безумоўна гэта не рэгіянальныя словы, а тыя, што маюць распаўсюджанне ў розных мясцовасцях па своему, па патрэбах і звычаях.

*Уладзімір Русецкі. Журналіст.*

## Моўны рэверанс мастоўскіх кінапракатчыкаў

Пытанне беларускай мовы; карыстанне ёю ў наш час набывае, як ніколі, вастрыню. І ўсё ад таго, наколькі бяздумна цяперашнія чыноўнікі выводзяць мову з ужытку. Да нядаўняга часу рэклама кінатэатра "Сучаснік" пісалася па-беларуску. Усе яе разумелі, і ніхто не быў супраць.

Не так даўно ў аднахвілле па волі дырэкцыі яна стала расейскамоўнай, быццам бы ад гэтага пабольшала наведвальнікаў.

Ёсць і станоўчыя прыклады. На чыгуначнай станцыі Масты расклад руху цягнікоў напісалі на беларускай мове. Нягледзячы на тое, што чыгункай карыстаюцца людзі розных нацыянальнасцяў нікому з іх не спатрэбіцца перакладчык.

Усе моўныя рэверансы, што адбываюцца вакол нас, звязаны толькі з жаданнем таго ці іншага кіраўніка дагадзіць вялікаму начальству.

*Антось Макей.*

## КНІГА ВЕРШАЎ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОЎЦА

У канцы чэрвеня г.г. у Інстытуце біяхіміі ў Гародні адбылася прэзентацыя кнігі вядомага навукоўца-біяхіміка, акадэміка Акадэміі навук Беларусі Юрыя Міхайлавіча Астроўскага. Ю.М.Астроўскі быў біяхімікам сусветнага ўзроўню, шматлікія навуковыя працы яго друкаваліся ў навуковых выданнях усяго свету, ён выпусціў некалькі манаграфій па пытаннях вітаміналогіі і біяхіміі алкагалізму. Але на гэты раз, дзякуючы падтрымцы навукова-вытворчага кааператыва "Біятэст", пабачыла свет кніга вершаў і публіцыстыкі Ю.М.Астроўскага "Душу раскрыўшы насцеж". Мала хто ведаў раней, што дырэктар Інстытута біяхіміі, чалавек, які быў заняты навуковай і адміністрацыйнай працай з ранку і да позняй ночы, актыўны грамадскі дзеяч, у рэдкія вольныя хвіліны пісаў вершы.



Юры Астроўскі

Пэўна, гэта не дзіўна. Кожны інтэлігентны чалавек час ад часу мае патрэбу выказаць самае важнае, самае галоўнае, што ляжыць на душы, у вершаваных радках. Мы ведаем шмат прыкладаў цікавых вершаваных твораў, нават паэм, якія пісалі вядомыя расейскія хімікі, біёлагі, фізікі. Гэтыя творы ў свой час часцяком друкавалі ў навукова-асветніцкім часопісе "Химия и жизнь".

Дык аб чым пісаў Астроўскі? У маладыя гады, натуральна, большая частка яго твораў — пра каханне. Але ўжо і тады пачынаецца і паступова займае галоўнае месца ў яго вершах тэма любові да Беларусі.

Не ведае ніхто: ні я, ні ты, ні мы
Гісторыі сваёй, бо нас не навучылі
Зямлю сваю любіць, Радзіму шанаваць.
Рабілі ўсё так, каб мы хутчэй забылі,
Адкуль і як прыйшлі, дзе жылі мы раней,
Якую мелі мову і краіну.
. . .
Праходзілі вякі, паходы, войны
Кастрычнік мінаваў, памёр Пілсудскі, Троцкі,
І Гітлера няма, і Сталін адыйшоў,
А час не дараваў табе ўсё назад,
Што спадчынай завуць і чым табе валодаць.
. . .
Вучыся разумець, што робіш для сябе,
Калі бароніш Край, калі дзеля другіх
Грабеш з агню каштаны . . .
Даволі грэблі іх тут праз усе вякі!
Спыніся! Хай табе вярнуць даўгі!

Гэтая тэма - галоўны боль яго душы, таму ён неадназразова звяртаўся да яе, пісаў розныя варыянты, каб найбольш дакладна выказаць свае думкі пра лёс Беларусі, пра беларускую мову, пра нашае месца ў гэтым свеце. Гэтаму прысвечаны і вялікі артыкул "Беларусы: адзін народ і тры нацыі?", які быў надрукаваны ў 1991 годзе, незадоўга да смерці Ю.М.Астроўскага.

Займаючысмя біяхіміяй, ён увесь час дбаў пра развіццё навукі менавіта на Беларусі, бо ён лічыў, што беларусы вельмі здольныя да навуковай дзейнасці, што высокі ўзровень адукаванасці народа можа стаць галоўнай крыніцай нашага багацця і дабрабыту.

Прагляваючы сшыткі, аркушыкі з блакнотаў, на якіх Астроўскі пісаў свае вершы, звяртаеш увагу, што пачынаў ён пісаць у 40-я гады па-беларуску. Бацька Ю.М.Астроўскага быў да вайны загадчыкам кафедры Менскага педагагічнага інстытута, у вайну ўзначальваў беларускую гімназію ў Слоніме, таму не дзіўна, што юнацкія гады Юры пісаў вершы па-беларуску. Калі ў канцы 40-х гадоў ён пачаў вучыцца ў Менскім медыцынскім інстытуце, у яго з'явіліся вершы на расейскай мове. Потым доўгі час ён амаль не пісаў вершаў, а новыя вершы ў 70-80-я гады ён піша зноў па-беларуску. І гэта, канешне, тыповы шлях беларускага інтэлігента ў нашыя часы.

Вядомы беларускі біяхімік раслін Аляксандр Сцяпанавіч Вечар у 20-30-я гады пісаў вершы і, натуральна, пісаў іх па-беларуску (Алесь Вечар). Прайшоўшы ў 50-60-я гады перыяд "расейскамоўнасці", як і Юры Астроўскі вярнуўся да роднай мовы ў 70-я.

А вось адзін з беларускіх інтэлігентаў пасляваеннага пакалення, хімік Іван Ласкоў, у канцы 60-х гадоў выдаў кніжачку вершаў "Белое небо" па-расейску, але пазней, нават ад'ехаўшы з Беларусі на сталае жыхарства ў Якуцію, адчуў сябе беларусам і пачаў пісаць па-беларуску.

Цікава, на якой мове пішуць зараз свае вершы маладыя беларускія навукоўцы - фізікі, хімікі, інжынеры?!

*Ніна Капуннікава, Гародня.*

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь"

Прыняты Палатай прадстаўнікоў 18 чэрвеня 1998 года. Адобраны Саветам Рэспублікі 29 чэрвеня 1998 года.

*Артыкул 1.* Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 26 студзеня 1990 года "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" (33 БССР, 1990 г., №4, арт.46) змяненні і дапаўненні і выкласці яго ў новай рэдакцыі:

**"ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь"**

**ГЛАВА 1. Агульныя палажэнні**

**Артыкул 1. Мэты заканадаўства аб мовах у Рэспубліцы Беларусь**

Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб мовах мае на мэце ўрэгуляванне адносін у галіне развіцця і ўжывання беларускай, рускай і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі ў дзяржаўным, сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці, ахову канстытуцыйных правоў грамадзян у гэтай сферы, выхаванне паважлівых адносін да нацыянальнай годнасці чалавека, яго культуры і мовы, далейшае ўмацаванне дружбы і супрацоўніцтва народаў.

**Артыкул 2. Дзяржаўныя мовы, іншыя мовы ў Рэспубліцы Беларусь**

У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі мовамі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы.

Рэспубліка Беларусь забяспечвае ўсебаковае развіццё і функцыянаванне беларускай і рускай моў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

Рэспубліка Беларусь праяўляе дзяржаўны клопат аб свабодным развіцці ўсіх нацыянальных моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі.

Дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемствы, установы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні ствараюць грамадзянам Рэспублікі Беларусь неабходныя ўмовы для вывучэння беларускай і рускай моў і дасканалага валодання імі.

Закон не рэгламентуе ўжывання моў у неафіцыйных зносінах, у зносінах членаў працоўных калектываў паміж сабой.

**Артыкул 3. Права грамадзян карыстацца іх нацыянальнай мовай**

Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права карыстацца іх нацыянальнай мовай. Ім гарантуецца таксама права звяртацца ў дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, на прадпрыемствы, ва ўстановы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні на беларускай, рускай або іншай прымальнай для бакоў мове.

Рашэнне па сутнасці звароту афармляецца на беларускай або рускай мове.

**Артыкул 4. Абавязак кіраўнікоў, іншых работнікаў дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў валодаць беларускай і рускай мовамі**

Кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў павінны валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання імі сваіх службовых абавязкаў.

**Артыкул 5. Гарантыі правоў грамадзян пры разглядзе падаваемых імі дакументаў у дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, на прадпрыемствы, ва ўстановы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні**

Дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемствы, установы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні павінны прымаць і разглядаць дакументы, якія падаюцца грамадзянамі на беларускай і рускай мовах.

Адмова службовай асобы прыняць і разглядзець зварот грамадзяніна на беларускай, рускай мовах са спасылкай на няведанне мовы звароту цягне за сабой адказнасць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 6. Абарона моў**

Усякія прывілеі ці абмежаванні правоў асобы па моўных прыкметах недапушчальныя.

Публічная знявага, ганьбаванне дзяржаўных і іншых нацыянальных моў, стварэнне перашкод і абмежаванняў у карыстанні імі, пропаведзь варожасці на моўнай глебе цягнуць устаноўленую законам адказнасць.

**ГЛАВА 2. Мова дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў**

**Артыкул 7. Мова актаў дзяржаўных органаў і органаў мясцовага кіравання і самакіравання**

Акты дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь прымаюцца і публікуюцца на беларускай і (або) рускай мовах.

Акты органаў мясцовага кіравання і самакіравання прымаюцца і публікуюцца на беларускай і (або) рускай мовах, а пры неабходнасці — і на нацыянальнай мове большасці насельніцтва той ці іншай мясцовасці.

**Артыкул 8. Мова справаводства і дакументацыі**

У Рэспубліцы Беларусь мовамі справаводства і дакументацыі, а таксама мовамі ўзаемаадносін дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў з'яўляецца беларуская і (або) руская мовы.

Тэксты на пячатках, штампах, штэмпелях, фармулярах, афіцыйных бланках дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў выконваюцца на беларускай і (або) рускай мовах.

**Артыкул 9. Мова тэхнічнай і праектнай дакументацыі**

Тэхнічная і праектная дакументацыя ў Рэспубліцы Беларусь рыхтуецца на беларускай або рускай мове, а з улікам прызначэння — на іншай мове.

**Артыкул 10. Мова дакументаў аб статусе грамадзян Рэспублікі Беларусь**

Афіцыйныя дакументы, якія сведчаць статус грамадзяніна, — пашпарт, працоўная кніжка, дакументы аб адукацыі, пасведчанні аб нараджэнні, шлюбе, а таксама дакументы аб смерці асобы — выконваюцца на беларускай і (або) рускай мовах, а асобныя дакументы пры неабходнасці — на беларускай (рускай) і іншай мовах.

**Артыкул 11. Мова з'ездаў канферэнцый і іншых форумаў**

У Рэспубліцы Беларусь рабочымі мовамі з'ездаў, сесій, канферэнцый, пленумаў, пасяджэнняў, нарад, іншых сходаў з'яўляюцца беларуская і (або) руская мовы.

Рабочай мовай міжнародных сходаў і форумаў, якія праводзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца мова, вызначаная ўдзельнікамі сходу ці форуму.

Удзельнікам мясцовых, рэспубліканскіх і міжнародных сходаў і форумаў гарантуецца права выбіраць мову выступлення з забеспячэннем перакладу на рабочую мову.

**Артыкул 12. Мова дакументаў па выбарах дэпутатаў і іншых асоб, выбіраемых на дзяржаўныя пасады народам**

Дакументацыя па выбарах дэпутатаў і іншых асоб, выбіраемых на дзяржаўныя пасады народам, афармляецца на беларускай або рускай мове.

Выбарчыя бюлетэні друкуюцца на беларускай або рускай мове.

**Артыкул 13. Мова ў сферы абслугоўвання**

На транспарце, у гандлі, у сферы медыцынскага і бытавога абслугоўвання ўжываецца беларуская або руская мова, а пры неабходнасці — іншыя мовы.

**Артыкул 14. Мова судаводства**

У Рэспубліцы Беларусь судаводства вядзецца на беларускай або рускай мове.

Пры разглядзе ў судах крымінальных і грамадзянскіх спраў, гаспадарчых спрэчак асобам, што прымаюць удзел у справе і не валодаюць мовай судаводства, забяспечваецца права азнаямлення з матэрыяламі, удзел у судовых дзеяннях праз перакладчыка, права выступаць у судзе на мове, якой яны валодаюць.

Следчыя і судовыя дакументы выдаюцца асобам, што прымаюць удзел у справе, па іх патрабаванню ў перакладзе на мову, якой яны валодаюць.

**Артыкул 15. Мова вядзення спраў аб адміністрацыйных правапарушэннях**

Вядзенне спраў аб адміністрацыйных правапарушэннях у Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на беларускай або рускай мове.

Калі асоба, што прыцягваецца да адміністрацыйнай адказнасці, не валодае мовай, на якой вядзецца справа, яна можа выступаць на роднай мове і карыстацца дапамогай перакладчыка.

**Артыкул 16. Мова натарыяльнага справаводства**

Натарыяльнае справаводства ў Рэспубліцы Беларусь вядзецца на беларускай або рускай мове.

Калі асоба, што звярнулася за ажыццяўленнем натарыяльнага дзеяння, не валодае мовамі, на якіх вядзецца справаводства, тэксты дакументаў павінны быць перакладзены ёй натарыусам або іншай службовай асобай, што ажыццяўляе натарыяльнае дзеянне, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 17. Мова пракурорскага нагляду**

Акты пракурорскага нагляду ў Рэспубліцы Беларусь складаюцца на беларускай або рускай мове. Пры ажыццяўленні пракурорскага нагляду на гэтых мовах вядзецца і перапіска з усімі дзяржаўнымі органамі, органамі мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі і грамадскімі аб'яднаннямі, размешчанымі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

У зносінах з органамі пракуратуры, пракурорскага нагляду іншых дзяржаў выкарыстоўваецца прымальная для бакоў мова.

**Артыкул 18. Мова юрыдычнай дапамогі**

Юрыдычная дапамога грамадзянам і арганізацыям аказваецца на беларускай ці рускай мове, або на прымальнай для бакоў мове.

**Артыкул 19. Мова міжнародных дагавораў**

Міжнародныя дагаворы Рэспублікі Беларусь заключаюцца:

на беларускай і (або) рускай мовах і мове (мовах) другога боку дагавора;

на беларускай і рускай мовах, а таксама на мове трэцяга боку, выкарыстоўваемай у якасці даведачнай;

па дамоўленасці бакоў на мове трэцяга боку.

**Артыкул 20. Мова ва Узброеных Сілах, іншых вайсковых фарміраваннях Рэспублікі Беларусь**

Ва Узброеных Сілах, іншых вайсковых фарміраваннях Рэспублікі Беларусь ужываецца беларуская і (або) руская мовы.

**ГЛАВА 3. Мова адукацыі, навукі культуры**

**Артыкул 21. Права на выхаванне і атрыманне адукацыі на нацыянальнай мове**

Рэспубліка Беларусь гарантуе кожнаму жыхару неад'емнае права на выхаванне і атрыманне адукацыі на беларускай або рускай мове. Гэта права забяспечваецца сістэмай дашкольных устаноў, агульнаадукацыйных школ, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў.

Права на выхаванне і атрыманне адукацыі на роднай мове маюць і асобы іншых нацыянальнасцей, якія жывуць у рэспубліцы.

Кіраўнікі і іншыя супрацоўнікі сістэмы адукацыі павінны валодаць беларускай і рускай мовамі.

**Артыкул 22. Мова выхавання ў дзіцячых дашкольных установах**

У дзіцячых дашкольных установах, а таксама ў дзіцячых дамах у Рэспубліцы Беларусь выхаванне вядзецца на беларускай і (або) рускай мовах.

У адпаведнасці з пажаданнямі грамадзян па рашэнню мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў могуць ствараецца дзіцячыя дашкольныя ўстановы або асобныя групы, у якіх выхаванне вядзецца на мове нацыянальнай меншасці.

**Артыкул 23. Мова навучання і выхавання, вывучэння моў у агульнаадукацыйных школах**

У Рэспубліцы Беларусь вучэбная і выхаваўчая работа ў агульнаадукацыйных школах вядзецца на беларускай і (або) рускай мовах.

У адпаведнасці з пажаданнямі і па рашэнню мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў могуць ствараецца агульнаадукацыйныя школы або класы, у якіх вучэбна-выхаваўчы працэс вядзецца на мове нацыянальнай меншасці або вывучаецца мова нацыянальнай меншасці.

Ва ўсіх агульнаадукацыйных школах Рэспублікі Беларусь вывучэнне беларускай, рускай і адной з замежных моў з'яўляецца абавязковым.

Парадак вывучэння беларускай мовы вучнямі, якія часова знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі, вызначаецца рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання ў галіне адукацыі.

**Артыкул 24. Мова навучання і выхавання ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах**

Навучанне і выхаванне ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах Рэспублікі Беларусь ажыццяўляецца на беларускай і (або) рускай мовах.

Беларуская мова ва ўсіх навучальных установах Рэспублікі Беларусь вывучаецца незалежна ад іх ведамаснай прыналежнасці.

**Артыкул 25. Мова ў сферы навукі**

У Рэспубліцы Беларусь вынікі навукова-даследчых работ афармляюцца на беларускай або рускай мове.

Выканаўцы навукова-даследчых работ могуць выбіраць мову публікацый навуковых вынікаў.

**Артыкул 26. Мова ў сферы культуры**

У Рэспубліцы Беларусь мовамі ў сферы культуры з'яўляецца беларуская і (або) руская мова. Гарантуецца захаванне і развіццё культуры на мовах народаў, прадстаўнікі якіх жывуць у рэспубліцы.

**ГЛАВА 4. Мова інфармацыі і сувязі**

**Артыкул 27. Мова сродкаў масавай інфармацыі**

У Рэспубліцы Беларусь мовамі сродкаў інфармацыі з'яўляюцца беларуская і (або) руская, а таксама мовы іншых народаў, прадстаўнікі якіх жывуць у рэспубліцы.

У сродках масавай інфармацыі не дапускаецца скажэнне агульнапрынятых норм выкарыстоўваемай мовы.

**Артыкул 28. Мова работы пошты і тэлеграфа**

У межах Рэспублікі Беларусь паштова-тэлеграфная карэспандэнцыя ад грамадзян, дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў прымаецца на беларускай або рускай мове.

Пошта і тэлеграф забяспечваюцца маркамі, канвертамі, паштоўкамі, бланкамі і г.д., надпісы на якіх выконваюцца на беларускай або рускай мове і адпавядаюць патрабаванням актаў Сусветнага паштовага саюза і Міжнароднага саюза электрасувязі.

**Артыкул 29. Мова аб'яў, паведамленняў і рэкламы**

Тэксты афіцыйных аб'яў, паведамленняў, плакатаў, афіш, рэклам і г.д. выконваюцца на беларускай або рускай мове.

**Артыкул 30. Мова маркіроўкі тавараў**

Маркіроўка тавараў, этыкеткі на таварах, інструкцыі па карыстанню таварамі выконваюцца на беларускай або рускай мове.

Маркіроўка тавараў, прызначаных на вываз за межы Рэспублікі Беларусь, выконваюцца на беларускай ці рускай мове, або на мове заказчыка.

Назвы ў таварных знаках падаюцца на беларускай або рускай мове.

**ГЛАВА 5. Мова назваў**

**Артыкул 31. Мова назваў дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў**

Афіцыйныя назвы дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў даюцца на беларускай і (або) рускай мовах. Пры неабходнасці гэтыя назвы могуць давацца ў перакладзе на іншую мову.

**Артыкул 32. Мова тапонімаў і картаграфічных выданняў**

У Рэспубліцы Беларусь тапонімы (назвы населеных пунктаў, адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, вуліц, плошчаў, рэк і г.д.) даюцца на беларускай або рускай мове.

Назвы геаграфічных аб'ектаў, якія знаходзяцца па-за межамі Рэспублікі Беларусь, даюцца на беларускай або рускай мове ў адпаведнасці з традыцыяй, а новыя — у транскрыпцыі з мовы-арыгінала.

Картаграфічныя выданні, прызначаныя для карыстання ў Рэспубліцы Беларусь, рыхтуюцца і друкуюцца на беларускай або рускай мове.

**Артыкул 33. Мова асабовых імён**

Беларускія (рускія) асабовыя імёны прозвішчы ўжываюцца ў адпаведнасці з нацыянальнай іменаслоўнай традыцыяй, нормамі і правіламі беларускай (рускай) мовы.

Асабовыя імёны і прозвішчы з іншых моў пішуцца і ўжываюцца на беларускай (рускай) мове ў адпаведнасці з правіламі перадачы іншамоўных уласных імён.

**ГЛАВА 6. Садзейнічанне нацыянальна-культурнаму развіццю этнічных беларусаў, якія жывуць за межамі Рэспублікі Беларусь**

**Артыкул 34. Садзейнічанне нацыянальна-культурнаму развіццю этнічных беларусаў, якія жывуць за межамі Рэспублікі Беларусь**

Рэспубліка Беларусь на аснове пагадненняў з іншымі дзяржавамі садзейнічае нацыянальна-культурнаму развіццю этнічных беларусаў, якія жывуць у гэтых дзяржавах.

Рэспубліка Беларусь у адпаведнасці з нормамі міжнароднага права садзейнічае задавальненню нацыянальна-культурных інтарэсаў асоб беларускага паходжання, якія жывуць у замежных краінах."

***Артыкул 2.*** **Гэты Закон уступае ў сілу з дня апублікавання.**

***Артыкул 3.*** **Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:**

падрыхтаваць і ўнесці ва ўстаноўленым парадку ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прапановы па прывядзенню заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

забяспечыць перагляд і адмену рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, падначаленымі Савету Міністраў, іх нарматыўных актаў, што супярэчаць гэтаму Закону.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА**
**13 ліпеня 1998 г., г.Мінск**

*Як гэта было*

# 25 ліпеня 5 гадоў з дня пастаноўкі ў Лідзе помніка Францішку Скарыне

## Уражанні абывацеля пяцігадовай даўніны 25 ліпеня 1993 года

У мінулую нядзелю правінцыйная ціхая Ліда была прыемна ўзрушана: высветлілася, што горад повен талентаў, кіраўніцтва здольнае арганізаваць грандыёзнае свята, а гараджане на высокім узроўні правесці яго. Мне давялося быць сведкам некаторых падзей, дзве з якіх стануць гістарычнымі.

15 гадзін. Былы дом урачыстасцяў. **Вернісаж**. Шматслоўная ўступная гаворка. Стамлялыае чаканне на прыступках лесвічнага пралёта. Нешта для некага здымае тэлебачанне, туды-сюды носяць лямпу асвятлення. Нарэшце дзверы адчыніліся. Цудоўная музыка. Толькі праз некаторы час разумееш, што гэта грае скрыпічна-віяланчэльны аркестр з музычнага вучылішча, які чаргуецца з харавой капэлай. Прасветленыя твары, бліскучыя дэрыжоры. Фірма "Захад-Вест" разносіць шампанскае. Радыёжурналіст бярэ інтэрвію. Перш беглы агляд. Тры залы, у правай уражанне сілы, магутнасці і таленту. Яшчэ раз павольней: без сумніву, у правай зале лепшыя карціны: Мельнікаў, Варакса, захапляльныя акварэлі, дзіцячыя малюнкі і гэта ўсё лідзяне. Вось табе і маеш!

22 гадзіны 30 хвілін. **Адкрыццё помніка Францішку Скарыне.**

Нешта прамаўляюць і нешта адбываецца на драўлянай пляцоўцы справа ад помніка закрытага пакрывалам. Сяды-тады даносяцца адгалоскі асобных словаў, металічны мікрафонны бразгат. Хлапчукі чародамі абляпіўшыя навакольныя дрэвы час ад часу адабральна свішчуць. У прагалінах між галовамі разпораз відно выступоўцаў: паэтэсу з ЗША, мужчын з Аўстраліі, трох міністраў Рэспублікі Беларусь, дэпутата Трусава, мэра горада. Цярплівае чаканне чагосці незвычайнага, і вось яно цуда: пакрывала ападае і перад вачыма прыгожы малады мужчына ў доктарскай мантыі. Радаснае ўзгалоссе і вырваўшыся ў адной побач стаяўшай жанчыны воклік: "Мы цяпер ужо не Ліда!". І я разумею, што яна хацела ўмясціць у гэтую фразу: мы цяпер не жыхары ціхага, застойнага, правінцыйнага гарадка, мы буйны культурны цэнтр Рэспублікі Беларусь, мы лідзяне - жыхары горада з далікатным жаночым іменем, у якога з'явіўся годны малады кавалер у выглядзе цудоўнага помніка ў найлепшым месцы.

Нечаканна бухнулі гарматы, над скверам разляцеліся агні салюта. Сапраўдны салют у Лідзе! Шматкратны, рознакаляровы, з шатровым раскіданнем і запозненасцю. Дальбог, мне шкода тых, хто яго не бачыць.

Ставяць свечкі. Пачынаецца вольны рух да помніка. Побач аказваецца Краўчанка — міністр замежных спраў краіны. Звяртаюся да жонкі і жартую: "Патрымайся за міністра, пакуль ён без аховы". Міністр, як і ўсе, узбуджаны і шчаслівы, жартуе ў адказ, навошта, маўляў, мне ладнаму хлопцу, касы сажань, ахова. "Цудоўны дзень, цудоўны помнік, добрая арганізацыя", — выказваю яму свае ўражанні. "Так будзе заўсёды, бо мы цяпер дзяржава", — адказвае ён мне наўздагон. "Дзяржава, дзяржава", — думаю я, — але помнік пастаўлены на сродкі лідзян, і дзяржава тут ні пры чым. Наадварот, з'яўленне ў правінцыйных гарадах помнікаў адбываецца насуперак дзяржаўнай волі.

Дзяржава аздабляе сталіцу і для яе заўсёды стараецца. Культурны скачок на ступень уверх мы змаглі здзейсніць дзякуючы аслабленню дзяржавы."

Радасныя і ўзбуджаныя мы вырашылі паглядзець, як пачнецца начная дыскатэка. І тут я зразумеў, што яшчэ доўгі шлях чакае горад да сапраўднага культурнага цэнтра. На плошчы групамі стаяла сумная моладзь. Яна была прыгожа апранутая, добра абутая, ёй было нияк . .. Адкрыццё помніка — гэта свята дзяцей і сярэдняга пакалення. Яны радаваліся і ставілі свечкі. Прамежкавае пакаленне паліла цыгаркі, натоўпам лезда ў "Лотас" змрочна чакала дыскатэку і абмяркоўвала перапетыі рэзкага скачка долара раніцай на рынку.

Праз праўгадзіны на горад абрынулася навальніца. Яна цэлы дзень стаяла за лесам і цярпліва чакала, пакуль закончыцца свята, дзеля цяперашніх і будучых лідзян, якія раптам у адзін дзень сталі ўладальнікамі карціннай галерэі і помніка Францішку Скарыне.

*Валеры Сліўкін*
*28.07.93г.*

## Падарожжа на Беларусь



Пісьменнік Уладзімір Шнэк-Случанскі

...24.7.1993 года ў Лідзе, па запрашэнню гаспадарства Ніны і Алеся Белахвоставых, якія гасцявалі нядаўна тут у Аўстраліі, ды карэспадэнтаў "Лідскай газеты" і гарадзенскай газеты "Пагоня". Ніна і Алесь вельмі прасілі перадаць прывітанне беларусам Мельбурна і падзяку за тую гасціннасць і сяброўства з якім іх тут прынялі, а асабліва гаспадарству Надзеі і Яўгену Груша.

Заўтра тут пачынаецца урачыстае свята горада Ліда.

25.7.1993 году, з раніцы на пляцы перад Лідскім замкам пачаліся урачыстасці: прамовы, выступы танцавальных гурткоў, спевы, вайсковы аркестр ... Апаўдні, мэр горада, Уладзімір Малец запрашае на абед, тут ён знаёміць мяне з брыгадзірам, камандуючым Лідскім гарнізонам і іншымі выдатнымі людзьмі горада — некаторых я ўжо ведаю з Менску. А на пляцы перад Лідскім замкам свята працягваецца — тысячы людзей, танцоўць, спяваюць, гамоняць, знаёмяцца ... Шмат хто ў беларускіх нацыянальных уборах, большыня з бел-чырвона-белымі сцяжкамі на грудзях. Стараюцца гутарыць па беларуску. На вуліцах і будынках беларускія сцягі і плакаты. Усё нашае роднае беларускае! Але што мне асабліва урэзалася ў памяць, дык гэта тое, што я спаткаў на адной з бакавых вуліц: бацька вядзе за руку, відаць да хаты, дзяўчынку гадоў тры, можа чатыры, а яна з гонарам і запалам размахвае бел-чырвона-белым сцяжком і калі параўнялася са мною выгукнула: "Зыве Белалусь!". Ад чагось такога, слёзы заміляваньня набягаюць на вочы і сціскаецца горла. Я доўга стаяў і глядзеў ім у след, аж пакуль яны не зніклі з вачэй, і толькі тады схамянуўся, што гэта ўразіла мяне так моцна, што я ёй нават нічога не адказаў. Адкажу хоць зараз: "Жыве! Сапраўды жыве! А ты, жыві доўга і шчаслiва, дарагая маленькая красуня з горада Ліда і хай твой жыццёвы шлях будзе ўсцелены кветкамі і дастаткам!" Зусім зразумела, што тут у першую чаргу заслуга бацькоў, але раз ёсць такія бацькі і такія дзеткі дык сапраўды Жыве Беларусь!

Тут-жа на святкаванні адбываецца ўрачыстая здача прысягі вайсковым аддзелам на вернасьць беларускаму народу. А ў вечары адкрыццё помніка Францішку Скарыне пад рознакаляровыя выбухі феерверкаў.



**Барэльеф скульптара Валяр'яна Янушкевіча на тыльным баку помніка Францішку Скарыне ў Лідзе**

На гэтым маё падарожжа па Беларусі, можна сказаць, канчаецца. Адсюль, праз Магілёў і Маскву, выязджаю ў Англію, у Лідс, адведаць старых сяброў па войску, па СБМ і скаўтынгу. Усе яны зараз, а асабліва Юрка Хахолка і Алесь Гаткові з'яўляюцца сябрамі Беларускага Вызвольнага Фронту.

*Мельбурн*
*6.9.1993г.*
*Палк. Ул.Шнэк.*

## ВАЧЫМА СВЕДКІ, ЦІ РЭЦЭНЗІЯ НА СПЕКТАКЛЬ "ВІЛЕНСКІЯ МРОІ"

Нядаўна ў чырвоным касцёле на плошчы Незалежнасці прайшоў спектакль "Віленскія мроі". Гісторыя сапраўднага кахання, якое не пакарылася нават смерці — вось галоўная тэма дзеяння. Спектакль пабудаваны ў форме маналога — аднаго з складанейшых жанраў у тэатральным майстэрстве. А выконвала яго выдатная беларуская актрыса, мастацкі кіраўнік тэатра "Зьніч" — Галіна Дзягілева. Лірычным героем монаспектакля з'яўляецца Іван Луцкевіч, якога мы ведаем, як вядомага беларускага дзеяча пачатку XX ст., палітыкі, асветніка, стваральніка газеты "Наша Ніва", чалавека, які ўнёс вялікі ўклад у станаўленне БНР, аднаўленай беларускай дзяржаўнасці.

Герой Г.Дзягілевай — Юльяна Вітан-Дубейская, віленская немка, якая прысвяціла сваё жыццё развіццю беларускай культуры. Дарэчы, спектакль створаны паводле ўспамінаў гераіні — Кветкі Вітан, як называла сябе і падпісвала свае творы Ю.Вітан-Дубейская.

Напэўна ніхто з гледачоў спектакля не пашкадаваў, што наведаў гэта дзеянне. А яно сапраўды цікавае і хвалявальнае. Чалавек, глядзячы яго, бы пераключаўся з рэальнага быцця і злучаўся з той атмасферай, што панавала на сцэне. Гэта пачыналася ўжо у самым пачатку спектакля, калі перад намі з цемры ўзнікала фігура дзейнай асобы. А калі да гэтага дадалі незвычайную музыку з таямнічым гучаннем, то атрымалася штосьці дзівоснае і захапляльнае. Гэта надавала спектаклю нейкую непаўторнасць і ўзнікала пачуццё таго, што ты сам з'яўляешся ўдзельнікам тых даўніх падзей.

Дзеянне адбывалася на фоне музейных экспанатаў, сабраных І.Луцкевічам яшчэ пры яго жыцці. Гераіня ўвесь час апавядала гледачам аб сваім жыцці, аб жыцці І.Луцкевіча і аб іх каханні, якое абарвалася смерцю ... Гледачы, слухаючы яе, былі ў самым цэнтры яе гарачых пачуццяў, што бязмежна ліліся з яе душы. Гэтым яны абавязаны выдатнай ігры актрысы, якая ўмела паказаць тое, што перажывала яе гераіня.

Трэба адзначыць майстэрства і іншых стваральнікаў спектакля — рэжысёраў-пастаноўшчыкаў Д.Марыніна, Д.Саладухі, мастака-пастаноўшчыка Б.Герлавана і кампазітара А.Залётнева, якія выдатна папрацавалі над гэтай работай. Яны атрымалі ўдзячнасць за пастаўлены спектакль, а гледачы — задавальненне.

Дзея будзе цікавай не толькі звычайным гледачам, але і навукоўцам, звязаных з музейнай справай, бо ў ёй побач з актрысай "іграе" і першы беларускі музей, створаны І.Луцкевічам. Гледачы, акрамя задавальнення, атрымалі яшчэ і цікавыя звесткі з жыцця беларускага дзеяча.

Дарэчы, някепска было б нагадаць гісторыю стварэння спектакля. Як ужо казалася вышэй ён створаны на аснове мемуараў Ю.Вітан-Дубейскай, якія называліся "Мае ўспаміны". Твор быў напісаны ў Нюрнбергу ў 1953 годзе. Потым ён трапіў у Лондан, а затым — у Амерыку, а ў канцы 80-х г.г. —у Вільню. На Беларусь ён трапіў дзякуючы пляменніку І. Луцкевіча, Лявону Луцкевічу, які перадаў яго Галіне Дзягілевай. Такім чынам і быў створаны гэты монаспектакль. Прэм'ера адбылася 24 кастрычніка 1996 года, калі адзначалася 115-я гадавіна нараджэння І.Луцкевіча і 75-я гадавіна стварэння першага беларускага музея.

Напрыканцы хочацца сказаць, што сапраўды цікавае тое мастацтва, у якое чалавек уклаў усю душу, усё сваё ўменне і любоў да сваёй працы. Прыкладам гэтаму з'ўляецца гэты спектакль "Віленскія мроі".

А сваё разважанне так і хочацца закончыць словамі, што напісаны на праграме спектакля:

Чырвонай ніткай надзеі
пазначым
новы краявід
і
пакінем там
як след
нашую
любоў.

Карэцкі А.У.
**ФБІС**
**Музейная справа**
**група № 105**

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня,
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 27. 07. 98 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 1701.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.